**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 32 (748) 7 жніўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**У сяброўкі Насці – Дзень нараджэння!** *Фота Надзеі Маліноўскай.*

**Вокны, дзверы ПВХ**
алюмініевыя балконныя рамы
металічныя і міжпакаёвыя
*замер, дастаўка – бясплатная*
высокая якасць, танныя кошты
*растэрміноўка плацяжу*
м-н «Крышталь», вул. Леніна, 114-а
**МТС: (029) 716-28-26**
REHAU SALAMANDER Brusbox, WDS, KBE
ІП Рамбінук Д.С.; УНП 300018852

Молодечненские
**ОКНА ПВХ**
АЛЮМИНИЕВЫЕ РАМЫ + МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ
НЕМЕЦКИЙ ПЛАСТИК **FORIS**
(Германия 100%) без свинца
*Профессиональный монтаж*
*Собственное производство*
Тел.: 8 (029) 641-62-94 (velcom); 8 (029) 857-35-43 (МТС)
ООО «Рекомпласт», г. Молодечно. УНП 690450197

УНП 391533035 Торговый дом БЕГЕМОТ, ул. Ленина, д. 87, 1 этаж
**ОКНА, ДВЕРИ**
- двери входные стальные;
- двери межкомнатные;
- окна ПВХ;
- рамы балконные;
- сетки москитные;
- подоконники и отливы.
**КУХНИ**
**ШКАФЫ - КУПЕ**
по индивидуальным размерам
МТС: (029) 518-62-35; (029) 717-62-35

**Камп'ютарны сэрвіс** Без % крэдыт
на Маскоўскай, 10, 2-гі паверх
- камп'ютары, - ноўтбукі, - камплектуючыя,
- аргтэхніка, - аксесуары,
- рамонт і абслугоўванне,
- запраўка і рамонт картрыджаў,
- фотаапараты, - тэлефоны,
- ВК тэлевізары
мтс: (033) 395-8000
vel (029) 395-8000
Мне патрэбная дамамога майстра!
ІП Катрёнак А.А.; УНП 391058112

## Запрашаем на вадасвятны малебен

**9 жніўня 2014 года а 10-й гадзіне, паблізу в. Сарокі Асінагародскага прыходу (Пастаўскі р-н) адбудзецца вадасвятны малебен на крыніцы Вялікапакутніка і лекара Панцелеімана.**




**Домашний Декор – House-Décor.by**
**Керамическая плитка . Декоративный камень**
*§ НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛОЧКИ от 100 тыс. руб. за м²§*
*§ Обои: славянские, пробковые, жидкие, фото §*
*§ Ламинат и линолеум + комплектующие §*
*Сайдинг. Соффит. ОЗБ. МДФ. ПВХ*
**§ Двери межкомнатные и входные §**
***Фартуки, светильнички, картины***
*Наличный и безналичный расчет*
+375(29) 214-34-55(мтс) +375(44) 463-84-36(велк)
Гагарина 4: ЧТУП «Тайдик плюс» УНП 391057606

ЛИДЕР ПРОДАЖ ОКОН ПВХ ПО ВИТЕБСКОЙ ОБЛАСТИ!
ЭКОЛОГИЧЕСКИ ЧИСТЫЙ 5-ТИ КАМЕРНЫЙ ПРОФИЛЬ БЕЗ СВИНЦА ПО ЦЕНЕ 3-Х КАМЕРНОГО!
**АКЦИЯ!** ПРИВЕДИ СОСЕДА И ПОЛУЧИ 100 000 руб.!
РАССРОЧКА ПЛАТЕЖА без % до 6 месяцев
ТЕПЛЫЕ ОТКОСЫ В ДЕНЬ МОНТАЖА
ПРОФЕССИОНАЛЬНЫЙ МОНТАЖ ГАРАНТИЙНОЕ ОБСЛУЖИВАНИЕ
Работаем без выходных! Наличный и безналичный расчет.
(+375 33) 604-77-88 МТС
(+375 29) 308-77-88 velcom
**ОКНА ПВХ**
ИП Луговой В.; УНП 691405582

**ПЕНАПЛАСТ**
магазін «Люкс», г. Глыбокае, вул. Горкага, 2 А
Маркі: ППТ-10-А; ППТ-15Н-А; ППТ-25Н-А
Памер пліт: 1х1,2 м; 1,2х1,5 м
Таўшчыня: 20; 30; 50; 80; 100 мм
тэл.: (029) 594-60-47
*Заводская якасць, зніжкі, дастаўка!!!*
ААТ «Маркет Прадукт»; УНП 390380527

**Шкафы-купе** УНП 390395242
**SENATOR** по индивидуальным размерам
модульные системы, горки, спальни, прихожие, детские
**Кухни** под заказ
*кредит, доступные цены*
ALTEZA натяжные потолки
мини-рынок "Верас", магазин "Калейдоскоп"
мтс: 211-66-36; 762-66-79; vel: 785-02-72

**Выкуп авто** в любом состоянии **ДОРОГО**
лайф: (025) 732-39-39
УНП 390012176

Коррекция фигуры методом биомеханической стимуляции
- Уменьшение в объемах за 10-15 занятий
- Упругие и эластичные мышцы
- Эффективная антицеллюлитная программа
- Восстановление фигуры после родов
- Омоложение организма
- Улучшение подвижности суставов
ул. Красноармейская, 19
мтс 8(029)837-53-02 life:) 8(025)923-91-57
УНП 691765416 ИП Дылевич И.А.

## Шаркаўшчына, Браслаў, Мсціслаў, Ушачы — толькі ў гэтых раёнах зарабляюць менш за $400

**Амаль ва ўсіх рэгіёнах Беларусі сярэдні заробак у маі 2014 года перайшоў за сімвалічную мяжу ў 4 мільёны рублёў.**

Паводле дадзеных Белстата, менш зараблялі толькі ў трох раёнах Віцебшчыны і адным у Магілёўшчыне.

Абсалютны аўтсайдар - Шаркаўшчынскі раён (3 854 100 рублёў). Следам ідуць Браслаўшчына (3 894 100) і Мсціслаўскі раён (3 909 500 рублёў).

Ушаччына стаяла на сімвалічнай мяжы — 3 996 800 рублёў.

***Ягор Марціновіч***

В ТОРГОВОЙ СЕТИ «ХОРС-МОТОРС» www.moto-minsk.by www.vales.by
HORS MOTORS
НОВОЕ ПОСТУПЛЕНИЕ!!!
AVA MAGNUM
МОТОКУЛЬТИВАТОР М 200 G 9
ГАРАНТИЯ ЗАПЧАСТИ СЕРВИС КРЕДИТ
Двигатель мощностью 9 л.с.
БОЛЬШИЕ КОЛЕСА
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ
А ТАКЖЕ В ПРОДАЖЕ: скутеры; квадроциклы; бензокосы; бензопилы; мотокультиваторы; сварочные аппараты; бензогенераторы; мотопомпы; компрессоры; бетономешалки; мотоблоки МТЗ; двигатели к мотоблокам МТЗ
г. Глубокое, рынок «ОДО Верас», ул. Гагарина, 4
тел.: 8 (033) 320-82-02 8(044) 534-58-74

## МНС інфармуе

**на 05.08.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 660;
Гібель людзей – 71, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 504.87 млн. руб.

## Мёрскі раён

# Сыравіны не хапае

■ Станіслаў Раманчук

**На тэрыторыі нашай краіны афіцыйна сёлета новых ачагоў АЧС нідзе не фіксавалася, хоць падобныя захворванні свіней выяўляліся на тэрыторыі Прыбалтыкі, Польшчы і ў суседніх абласцях Расіі.**

У нас наадварот кіраўніцтва Беларусі паставіла задачу аднавіць свіное пагалоўе, якое ў гаспадарках Віцебшчыны летась зменшылася напалову. Вось чаму ўжо каторы месяц адчувае сур'ёзны дэфіцыт сыравіны для перапрацоўкі і ААТ "Мёрскі мясакамбінат". З пачатку года добра, калі ўдаецца закупіць за месяц 30-35 тон свініны і шпіка, што ў 3 разы меней, чым было яшчэ летась. Як і іншыя прадпрыемствы Віцебскага канцэрна мясамалочных прадуктаў у Оршы, Віцебску, Глыбокім, міёрцы вымушана сталі выпускаць мясапрадукты з ялавічыны і з мяса птушкі. На гэтым прадпрыемстве практычна поўнасцю спынілі выпуск свіных паўфабрыкатаў, істотна зменшылі асартымент каўбасных вырабаў. Зменшыліся таксама пастаўкі вырабаў пад мясцовым брэндам у іншыя рэгіёны краіны. Як і ў іншых мясакамбінатаў вобласці скараціўся экспарт і ў Расію, якая купляе беларускае мяса толькі пасля яго перапрацоўкі ў тэмпературы 72 градусы, фактычна кансервы і асобныя каўбасы. Як на бяду, па неафіцыйнай інфармацыі, свіная чума і ў гэтым годзе падняла галаву. Ужо на 6 свінагадоўчых комплексах у заходніх раёнах Прыдзвіння прыйшлося з-за АЧС "чысціць" памяшканні, што яшчэ болей зменшыць сыравінную базу для мясцовых перапрацоўшчыкаў.

## Пастаўскі раён

# Паабедаць, як у СССР

■ Кастусь Александровіч

**Сярод многіх людзей старэйшага і сярэдняга пакаленняў існуе пэўная настальгія аб гадах маладосці, якія прыпалі на савецкі час.**

Гэту акалічнасць вырашылі скарыстаць работнікі філіяла № 2 Пастаўскага райпо і адкрылі ў горадзе новы незвычайны аб'ект грамадскага харчавання пад назвай "СССР". Ён размясціўся, дарэчы, у памяшканні былой рабочай сталовай завода радыёкампанентаў "Беліт", якая раней карысталася папулярнасцю сярод не толькі завадчан. Аднак цяпер прадпрыемства перажывае далёка не лепшыя часы, яго штат скараціўся болей чым у 10 разоў. Кааператары ўзялі пустуючы будынак па суседстве з крытым рынкам у арэнду, правялі ў ім неабходны рамонт, закупілі неабходнае абсталяванне. А вось інтэр'ер сваёй сталовай самай таннай трэцяй нацэначнай катэгорыі быў зроблены ў стылі савецкага мінулага. На сценах з'явіліся партрэты кіраўнікоў таго часу на чале з дарагім таварышам Леанідам Ільічом, чырвоныя сцягі і іншыя рэчы савецкай эпохі. У мінулае вяртаюць мілагучныя савецкія песні, якія, праўда, круціць ужо сучасны музычны цэнтр. Ды і посуд на сталах не металічны, як было раней, а з сучасных матэрыялаў. Праўда, меню страў пастараліся зрабіць такім, якое чыталі савецкія людзі. Адрозненне гэтай сучаснай сталоўкі "СССР" ад сваёй папярэдніцы ў тым, што тут вельмі смачна гатуюць абеды. Добра пад'есці з трох блюд можна тут меней чым за 20 тысяч і адначасова прачытаць стары савецкі плакат з заклікам: хлеба браць да абеда ў меру. З кожным днём наведвальнікаў у новай сталовай прыбаўляецца, сталі ўзнікаць нават чэргі, а людзі сталі заказваць памяшканне для правядзення розных урачыстасцей.

## Полацкі раён

# Лес заўжды карміцель

■ Чэслаў Якубовіч

**З даўніх часоў карысталіся людзі багаццямі прыроды, а летам і восенню асаблівa дарамі лесу.**

Гэту даўнюю традыцыю цікава адрадзілі ў Полацкім раёне, дзе днямі ўжо ў шосты раз прайшоў своеасаблівы экалагічны фестываль "Полацкія чарніцы-2014" і чэмпіянат па збору гэтых лясных ягад. З кожным годам расце яго папулярнасць у мясцовых жыхароў і не толькі сярод дарослых. Праўда, у гэтым годзе з-за асаблівасцей надвор'я ўраджай чарніц не такі багаты, як летась, але той, хто любіць і ведае лес, з пустым вядром адтуль не вяртаўся. Сёлета ў чарговым свяце сямейнага адпачынку на ўлонні прыроды ўдзельнічала больш паўтысячы чалавек, суботні раніцай на зялёныя маршруты на тэрыторыі шасці сельсаветаў выйшла больш 120 каманд прадпрыемстваў, арганізацый і ад прафсаюзаў краю. Характэрна, што асабліва не перашкаджалі зборшчыкам ягад і лясныя камары з машкарой. Нікому не ўдалося абысці каманду Дрэтуньскага лясніцтва з чатырох чалавек, якія разам сабралі 24 кг каштоўных для здароўя ягад. Пакуль ішлі спаборніцтвы ягаднікаў, у самім горадзе на цэнтральным праспекце працавалі тэматычныя пляцоўкі, сярод якіх была і "Чарніца дзіцячая" з выставай драўляных скульптур і жывым куткоў звяркоў. У сельскай мясцовасці таксама працавалі канцэртныя пляцоўкі, частавалі варэннем з ягад. На галоўнай сцэне фестывалю выбралі чарнічных караля з каралевай, якімі сталі лесавод Насця Маразёнак і самы юны ўдзельнік, пяцігадовы Глеб Дзятлаў.

# Аб самым надзённым

## ВА ЎСІХ СФЕРАХ АЙЧЫННАЙ ЭКАНОМІКІ ЎЗНІКЛІ АПОШНІМ ЧАСАМ АДЧУВАЛЬНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Сітуацыя ў іншых сферах таксама не радуе. Вялізныя даўгі па краіне перад арганізацыямі дарожнага будаўніцтва, а таксама ў сельскай гаспадарцы. За апошнія 1,5 гады ў айчынным АПК практычна падвоілася колькасць стратных гаспадарак. Звыш 900 нашых сельгаспрадпрыемстваў проста не змогуць далей існаваць без дзяржаўных датацый і падтрымкі.**

Наш час хуткаплынны, і сёлета ў сярэдзіне лета мінула ўжо 20 гадоў з моманту першых выбараў нязменнага беларускага прэзідэнта. У наступным годзе восенню павінны адбыцца чарговыя такія выбары, і на фоне трагічных украінскіх падзей шанцы дзеючага кіраўніка дзяржавы захаваць уладу яшчэ больш узраслі. Аднак выбарчая кампанія простай не будзе, паколькі справы ў эканоміцы не вельмі зайздросныя, а многія раней дадзеныя абяцанні так і застануцца нявыканымі.

У прыватнасці, у пачатку зімы 2010 года на апошнім Усебеларускім народным сходзе шмат гаварылася і абяцалася праз 4 гады наблізіць, хто не забыўся, памеры зарплаты беларусаў да тысячы долараў у эквіваленце. На справе, ніводзін беларускі рэгіён, нават самы багаты шахцёрскі край у Салігорску не наблізіўся да гэтай лічбы. На канец гэтага года сярэднія заробкі ў Беларусі ледзь перавысяць паказчык 600 USD, а ў глыбінцы людзі зарабляюць і таго меней. Пры гэтым рост цэн самы высокі ў нас на прасторах СНД і ў цэлым па Еўропе.

Гэта толькі адзін прыклад, а вось не выконваць абяцанні – гэта паказчык таго, што стабільнай абстаноўку ў Беларусі ўжо ніхто не назаве. У сярэдзіне лета мы фактычна пераўзышлі прагнозны паказчык гадавой інфляцыі 11 % і не думаем на гэтым спыняцца.

Пра гэта шмат гаварылася на прайшоўшым днямі ў сталіцы чарговым пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях. Як высветлілася на ім, цяпер усю краіну абхапіў суцэльны крызіс неплацяжоў. Ад Мінска да ўскраін пайшла такая практыка, што грошай у суб'ектаў гаспадарання мізэр і ніхто не думае разлічвацца за аказваемыя работы і паслугі.

Да прыкладу, на канец чэрвеня айчынным будаўнічым арганізацыям заказчыкі, як правіла мясцовыя органы кіравання і УКБ, завінавацілі гіганцкую суму 4033 млрд. рублёў. З-за гэтага ўзнікла праблема дамоў-даўгабудаў, таксама дрэннай якасці ўзводзімых аб'ектаў. У пачатку года сёлета такіх дамоў з пратэрмінаванымі датамі здачы ў эксплуатацыю было 144. Пасля ўмяшання асабіста А. Лукашэнкі быццам такія шматпавярхоўкі з горампапалам да ліпеня здалі навасёлам. Аднак радавацца рана, бо зноў з'явіліся 18 новых праблемных дамоў, якіх намячалася здаць да канца года сёлета. Аднак на Віцебшчыне 6 дамоў яшчэ не пачыналі зусім узводзіць, бо не знаходзіцца грошай.

Сітуацыя ў іншых сферах таксама не радуе. Вялізныя даўгі па краіне перад арганізацыямі дарожнага будаўніцтва, а таксама ў сельскай гаспадарцы. За апошнія 1,5 гады ў айчынным АПК практычна падвоілася колькасць стратных гаспадарак. Звыш 900 нашых сельгаспрадпрыемстваў проста не змогуць далей існаваць без дзяржаўных датацый і падтрымкі. Пры гэтым другі год вытворчасць мяса, малака ды і збожжа зніжаецца, а даўгі айчынных калгасаў дасягнулі 128 трлн. рублёў, што супастаўіма з нашым гадавым дзяржбюджэтам. Банкі не ведаюць, як яны вернуць звыш 14 трыльёнаў пратэрмінаваных крэдытаў АПК.

Нават багатыя краіны кантынента не дазваляюць сабе такой шчодрасці. Звыш 40 млрд. долараў уклала Беларусь у сваю сельскую гаспадарку, а эфектыўнасць гаспадарання на зямлі застаецца нізкай. Такое адчуванне, што ў нас пачалі ствараць уласную фінансавую піраміду і прывыклі жыць у доўг, ужо штогод вяртаем па ранейшых замежных пазыках па 3 і болей млрд. долараў. Вось толькі падобныя хісткія канструкцыі рана ці позна развальяцца. З намі ўжо самы галоўны саюзнік Расія не хоча звязвацца, бо гэтым тлумачыцца затрымка практычна на год выдзялення апошняга 6-га траншу крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, бо не выконваем свае абавязацельствы.

І невыпадкова дасведчаныя спецыялісты прагназуюць сёлета невялікі і нават нулявы рост беларускай эканомікі. Нас можа выратаваць тэрміновае зноў знешняе фінансаванне, альбо продаж важных аб'ектаў нерухомасці, якія цікавяць найперш Расію. Інакш паўтарэння крызісу 2011 года з шалёнай інфляцыяй за 100 % і трохразовай дэвальвацыяй нацвалюты нам не пазбегнуць. Пакуль краіне ўдавалася захоўваць хоць і няпроста ўстойлівасць сваёй фінансавай сістэмы, аднак і бясконца жыць быццам на пахаваной бочцы не выпадае. Цяпер патрабуецца на ўсіх узроўнях сістэмная праца па перадоленню падобных эканамічных цяжкасцей.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 07.08.14 | | | | Пятніца 08.08.14 | | | | Субота 09.08.14 | | | | Нядзеля 10.08.14 | | | | Пн.11.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +20 | +24 | +28 | +24 | +19 | +24 | +28 | +24 | +19 | +24 | +27 | +24 | +20 | +24 | +28 | +25 | +21 | +25 | +29 |
| Ціск | 747 | 748 | 747 | 746 | 746 | 746 | 745 | 744 | 744 | 745 | 745 | 745 | 746 | 747 | 746 | 746 | 746 | 746 | 745 |
| Вільготнасць | 78 | 66 | 40 | 68 | 85 | 70 | 42 | 73 | 85 | 73 | 48 | 73 | 85 | 75 | 45 | 71 | 83 | 70 | 43 |
| Вецер м/сек | 1 У | 1 Пд | 2 Пд-У | 1 У | 1 Пд | 1 З | 0 ШТЛ | 1 Пн-З | 1 Пн | 1 Пн | 1 Пн | 1 Пн | 1 Пн | 0 ШТЛ | 1 У | 1 У | 1 У | 1 У | 2 Пд-У |

## Дзень за днём

**Зноў адклалі да кастрычніка разгляд пытання аб выдзяленні Беларусі 6-га траншу крэдыту ЕўрАзЭС з-за невыканання беларусамі 10 паказчыкаў крэдытнай праграмы. Усе рэгіёны краіны ўключыліся ў масавую ўборку зерневых. У Беларусі пачалі дзейнічаць 4 Указы па вырашэнні праблемных пытанняў аграпрамысловага комплексу. Дзяржава збіраецца падтрымліваць толькі эфектыўныя гаспадаркі, аднак у 1,8 разы вырасла колькасць стратных калгасаў, якіх ужо больш 900. Пачалася чарговая кампанія па прызыву грамадзян на ваенную службу. Больш за 200 гектараў лесу прыйдзецца высекчы з-за моцных пашкоджанняў ветрам.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дзяржсакратар Д. Керры зноў абвінаваціў Расію, што яна патрымлівае, рыхтуе і забяспечвае сепаратыстаў на ўсходзе Украіны, дае ім танкі і ракетныя ўстаноўкі.

**Расія.** Расійскі ваенны гісторык М. Салонін заявіў, што Расія ваюе ва Украіне як дваравая шпана: цішком, з-за вугла і ўсё болей пазбаўляецца розуму з-за распальвання там вайны.

**Англія.** Адзін чалавекізгой У. Пуцін, як заявіў глава МЗС Ф. Хамманд, мог бы імгненна палепшыць сітуацыю на Украіне, але ён хлусіць і віна ягоная толькі ад гэтага яшчэ больш памнажаецца.

**Ірак.** Фанатыкі-ісламісты выгналі з роднага горада Масула хрысціянскую супольнасць, якая жыла тут 1500 гадоў, і забілі яшчэ 1700 палонных ваеннаслужачых-шыітаў.

**Літва.** Услед за Еўракамісіяй і ЕЦБ Еўрапарламент зацвердзіў уступленне краіны ў зону еўра з 1 студзеня 2015 года, бо літоўцы выканалі ўсе неабходныя для гэтага ўмовы.

**Германія.** Буйнейшы ў Еўропе аўтаканцэрн Volkswagen AG абʼявіў, што адмовіўся ад намераў купіць акцыі і асобныя мадэлі аўтамабіляў італьянскага канцэрна Fiat.

**Грузія.** Прэмʼер-міністр Іраклій Гарыбашвілі з мэтай павышэння эфектыўнасці працы ўрада пачаў кадравыя перастаноўкі і замяніў адразу 7 міністраў свайго кабінета.

**Узбекістан.** Адразу 26 дзяцей у Шахрысабскім раёне на поўдні краіны атрымалі ў мясцовых медустановах заражэнні вірусам СНІДа, з іх шасцёра ўжо памерлі.

**Італія.** Паліцыя Сіцыліі арыштавала траіх дзялкоў з Марокка, якія арганізавалі нелегальную пераправу мігрантаў у ЕС, але больш 180 з іх задыхнуліся ў труме судна.

**Расія.** На чарговым пракрамлёўскім маладзёжным форуме “Селігер-2014” у спёку на беразе аднайменнага возера атравіліся больш 100 чалавек, 30 з іх прыйшлося лячыць.

**Малдова.** Пасля ратыфікацыі парламентам Пагаднення аб асацыяцыі з ЕС Расія адразу ў разгар сезона нарыхтовак увяла забарону на ўвоз малдаўскай садавіны і гародніны.

**Латвія.** МЗС краіны ўнёс у чорны спіс асоб, якім забароняць уезд у ЕС, трох дзеячаў расійскага поп-бізнесу І. Кабзона, А. Газманава і Валерыю за іх падтрымку анексіі Крыма.

**Кітай.** На хуткаснай аўтастрадзе Шанхай-Куньмін пасажырскі аўтобус сутыкнуўся з бензавозам, у выніку выбуху загінулі 38 чалавек, 5 былі паранены, згарэлі 5 аўтамабіляў.

**Турцыя.** Адносіны паміж украінцамі і рускімі сталі настолькі варожымі, што яны паміж сабой пачалі масавую страшную бойку ў адным з гатэляў на курорце Кемер.

**Расія.** Адыёзны расійскі гумарыст М. Задорнаў прапанаваў накрыць Украіну ракетным агнём і абвінаваціў спецслужбы ЗША ў збіцці малайзійскага Боінга-777.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасол Украіны ў РБ М. Ежэль пацвердзіў, што самалёт “Боінг-777” быў збіты пад Данецкам у выніку тэракта пры дапамозе атрыманага сепаратыстамі з Расіі ЗРК “Бук М1”.

**Дзяржынск.** Мінэканомікі Беларусі далучыў мясцовы агракамбінат да 4-х птушкафабрык, якія неабгрунтавана павысілі цэны на мяса птушкі, і даручыў знізіць цэны на прадукцыю.

**Бабруйск.** Суд накіраваў 24-гадовага гараджаніна на 3 гады ў калоніюпасяленне адкрытага тыпу за ўдар у твар супрацоўніка ДАІ, яму трэба выплаціць 50 млн. рублёў.

**Мінск.** Міністр адукацыі Беларусі Сяргей Маскевіч прызнаў, што ўзровень падрыхтоўкі ўчарашніх школьнікаў па шэрагу прадметаў нізкі, тэсты правалілі 40 тысяч выпускнікоў.

**Баранавічы.** У сувязі з напружанай абстаноўкай у Данбасе Беларуская чыгунка з 12 жніўня адменіць цягнік № 383/384 да Марыупаля, маршрут скарочаны да станцыі Харкаў.

**Зельва.** У пачатку жніва ў полі за вёскай Чырвонае Сяло згарэў нямецкі камбайн “CLAAS Lexion 580” 2005 года выпуску, агонь пашкодзіў у бункеры 300 кг пшаніцы.

**Мінск.** З цягам часу ў Беларусі, як заявіў міністр гандлю Валянцін Чаканаў, будзе спынены продаж піва ў пластыкавай тары, напоі стануць прадаваць у бутэльках са шкла.

**Гомель.** Дзед з бабай не дагледзелі 2-гадовага ўнука, які залез на падаконнік і выпаў праз маскітную сетку з адкрытага акна на 3-м паверсе дома, атрымаў цяжкія траўмы.

**Дзятлава.** Сумка, якую забыўся ў мясцовым філіяле Белаграпрамбанка адзін з кліентаў, стала прычынай тэрміновай эвакуацыі з памяшкання 19 чалавек перад прыездам сапёраў.

**Мінск.** Акрамя залічэння ў электроннай форме па абʼяднаным прыёме ў БДУІР аказаўся самы высокі прахадны бал (256) для залічэння на бюджэт сярод айчынных ВНУ.

**Гродна.** Следства ўстанавіла, што вясной 32-гадовы афіцэр міліцыі застрэліўся ў ціры ў прысутнасці начальства з-за моцнай дэпрэсіі і эмацыянальнага перанапружання.

**Мазыр.** Чацвёра сяброў-рыбаловаў падчас адпачынку на аграсядзібе “Панскі сад” злавілі вудай за 25 мінут барацьбы сама вагой 42 кг і … адпусцілі гіганта назад у Прыпяць.

**Лунінец.** Да 5 гадоў турмы пагражае 25-гадовай уладальніцы Альфа Рамео за перадачу аўто брату без правоў, ён здзейсніў ДТЗ, у якім загінуў пасажыр, студэнт ВНУ.

**Гомель.** Пасля ўжывання трыма маладымі хлопцамі спайсу адзін з іх ва ўзросце 23 гадоў застаўся без вачэй і аслеп назаўсёды, яго знаёмых садыстаў пад кайфам арыштавалі.

**Івацэвічы.** Ноччу падчас палявання паблізу вёскі Сенькавічы 38-гадовы выпадкова прыняў за жывёлу свайго малодшага на 5 гадоў брата і неасцярожна застрэліў яго.

# Мытнікі атрымалі права абкладаць пошлінай багаж асоб, якія едуць праз мяжу часцей за раз на тры месяцы



nn.by

**На сайце Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі апублікаваныя новыя «метадычныя рэкамендацыі па вызначэнні прызначэння і кошту тавараў, што перамяшчаюцца фізічнымі асобамі».**

Як і раней, на асоб, якія прыязджаюць ў Мытны саюз (МС) праз мяжу Беларусі пасля перапынку ў 3 месяцы або даўжэйшага, распаўсюджваецца дзеянне Пагаднення аб парадку перамяшчэння фізічнымі асобамі тавараў для асабістага карыстання праз мытную мяжу мытнага саюза. Такія фізічныя асобы могуць завезці праз беларускую мяжу тавары для асабістага карыстання, мытны кошт якіх не перавышае 1500 еўра і агульная вага не перавышае 50 кг, уключаючы алкагольныя напоі і піва не больш за 3 літры, не больш за 200 цыгарэт або 50 цыгар (цыгарыл), або 250 грамаў тытуню (тытунёвых вырабаў). Завозіць алкагольныя напоі, піва, тытунь і тытунёвыя вырабы дазваляецца толькі фізічнымі асобамі, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту.

У адпаведнасці ж з новымі «метадычнымі рэкамендацыі» для асоб, якія перасякаюць мяжу МС часцей за раз на тры месяцы, на беларускай мытні будуць дзейнічаць асаблівыя правілы.

З гэтага часу мытны інспектар будзе вырашаць адносна такіх асоб, што можна лічыць таварамі для асабістага карыстання.

Цяпер пры частаце перамяшчэння, напрыклад, раз на 7 дзён бяспошлінна можна будзе прывезці ў Беларусь не больш за 5 кг прадуктаў, у тым ліку не больш за 1 літра алкаголю і не больш за тры найменні тавараў (па адзінцы кожнага).

Калі ўезд у Беларусь адбываецца паўторна на працягу сутак, то ўсе тавары і прадукты (акрамя неабходных на час руху) будуць абкладацца мытнай пошлінай.

У «метадычных рэкамендацыях» прыведзены спіс тавараў для асабістага карыстання, якія праз мяжу ў Беларусь можна завезці толькі па адной адзінцы за год.

Гэта пліта газавая або электрычная, тэлевізар, халадзільнік, унітаз, камп'ютар (ноўтбук), газонакасілка і г.д. Абмежаванні закранулі таксама ўвоз шын і дыскаў для аўтамабіля. Цяпер толькі сам уладальнік (пры наяўнасці дакументаў на аўтамабіль) адзін раз на год можа завезці адзін камплект з 4-х шын (летніх або зімовых, але адзін) і адзін камплект з 4-х дыскаў.

Варта ведаць, што камерцыйнай партыяй, паводле «метадычных рэкамендацый» можа быць прызнане перасоўванне рознымі фізічнымі асобамі трох і больш адзінак ідэнтычных тавараў, са згаданага вышэй пераліку, у адным транспартным сродку (за выключэннем аўтобусаў больш за 12 месцаў і чыгуначных вагонаў).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Чашнікі.** Першыя 20 тон збожжа новага ўраджаю паступілі на Віцебскі камбінат хлебапрадуктаў, як і летась, з мясцовага сельгаспрадпрыемства “Вядрэнскае-агра”.

**Віцебск.** Ля сцен св. Успенскага кафедральнага сабора пасля малебна воінам 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады ўручылі вайскавую харугву.

**Гарадок.** Пад раніцу разрад маланкі падпаліў пусты дом у адной з вёсак раёна, на працягу дня на тэрыторыі вобласці такім чынам загарэліся яшчэ тры хаты і лазня на Расоншчыне.

**Глыбокае.** Услед за яркім святам 600-годдзя горада ў райцэнтры адбыўся II “Вішнёвы фестываль”, лепшы панадворак арганізаваў на ім Азярэцкі сельсавет.

**Ушачы.** Віцебскі аблвыканкам падтрымаў прапановы грамадскасці: у райцэнтры з'явяцца вуліца і школа імя народнага пісьменніка Беларусі Рыгора Барадуліна.

**Полацк.** У горад з Віцебска прыбыў абраз з часткамі астаткаў прэпадобнага святога Сергія Раданежскага, дагэтуль святыне пакланяліся вернікі ў храмах абласнога цэнтра.

**Паставы.** Пры ўездзе ў горад з боку Варапаева разабралі частку бетоннай сцяны, яна служыла агароджай былога ваеннага 5-га гарадка, там узвялі 5 новых шматпавярховак.

**Віцебск.** Сур'ёзны недабор студэнтаў здарыўся ў акадэміі ветэрынарнай медыцыны, там было недаўкамплектавана 18 % месц на бюджэтную дзённую форму навучання.

**Верхнядзвінск.** На працягу 4-х дзён на паляне паблізу Кургана Дружбы працаваў чарговы Міжнародны маладзёжны лагер “Бе-La-Русь” моладзі з Беларусі, Латвіі і Расіі.

**Сянно.** Другі год запар пустуе і разбураецца ля ляснога возера буйны аздараўленчы лагер на 500 месц для дзяцей з 7 карпусамі, ён належыў праблемнаму тэлезаводу “Віцязь”.

**Чашнікі.** Жыхары раёна перажылі страшнай сілы навальніцу, асабліва пацярпела вёска Красналукі, дзе шаравая маланка спаліла дом пенсіянераў і заляцела яшчэ да суседа.

**Орша.** 60-гадовы судзімы пенсіянер спрабаваў абрабаваць прадуктовы магазін, але не змог самастойна ўзламаць касу і быў затрыманы міліцыянерамі, вольнымі ад службы.

**Шаркаўшчына.** Калектыў райбальніцы за ўласныя зробленыя сродкі набыў апарат ТЭС-тэрапіі для лячэння залежнасці ад алкагалізму, курс лячэння прайшлі ўжо 620 чалавек.

**Верхнядзвінск.** На пункце пропуску “Грыгароўшчына” супрацоўнікі Віцебскай мытні затрымалі буйны груз кантрабандных цыгарэт на 4 млрд. рублёў, іх вязлі ў Латвію.

**Орша.** Больш паўтысячы юнакоў і дзяўчат удзельнічалі ў адкрытым турыстычным злёце, які прайшоў на беразе Дняпра ля вёскі Харкаўка і прынёс перамогу льнокамбінату.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

...Неужто правда, в самом деле,
Что все мы вдруг осиротели?
Но как от звёзд, которых нет,
Мы видим долго яркий свет?
Так слово Ваше людям светит –
Ведь Вы за чад своих в ответе.
За тех, которые в кромешной мгле
Блуждают слепо по земле.
Как добрый пастырь нас ведите,
Нас поучайте, помогите.
Своей невидимой рукой
Благословите наш покой..

# Ён выбраў нялёгкі шлях

## Да 95-годдзя з дня нараджэння Серафіма Гагалушкі



Ірына Стома

Гэтыя вершы прынесла ў рэдакцыю газеты "Веснік Глыбоччыны" маладая глыбачанка Ірына Лойка на наступны дзень пасля пахавання протаіерэя Серафіма Гагалушкі, благачыннага цэркваў Глыбоцкай акругі, настаяцеля Кафедральнага сабора Ражства Прасвятой Багародзіцы. 18 мая 1997 года спынілася яго сэрца. Гэта была непамерна вялікая страта для ўсіх прыхаджан, для ўсіх, хто ведаў, любіў і паважаў бацюшку Серафіма.

Усяго некалькі месяцаў не дажыў айцец Серафім да свайго 50-гадовага юбілею святарскага служэння Госпаду. Амаль 30 гадоў з іх яго свяшчэнаслужэнне праходзіла ў нашай Язненскай Спаса-Прэабражэнскай царкве.

1949 год… У вёску Язна прыязджае малады святар са сваёй сям'ёй: матушкай Марыяй і аднагадовым сынам Барысам. Два яго папярэднікі былі арыштаваныя і сасланыя ў Сібір і на Далёкі Усход. У святарскім доме яшчэ некаторы час заставалася жыць жонка апошняга святара матушка Аляксандра Бекарэвіч. Вельмі цесныя зносіны былі ў айца Серафіма з яе сынамі, асабліва з айцом Алегам, з зяцем - айцом Уладзімірам Голасавым. Пачатак іх быў пакладзены яшчэ падчас вучобы ў Віленскай духоўнай семінарыі, потым на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта.

Нарадзіўся айцец Серафім Адамавіч Гагалушка ў святарскай сям'і 19 красавіка 1919 года. Бацька яго быў святаром у сяле Андроны Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Дачка айца Серафіма матушка Арыядна Чахоўская апавядае: "У сям'і Адама Мітрафанавіча і Любові Феліксаўны Гагалушкаў доўга не было дзяцей (каля 14 гадоў). Яны маліліся Богу і прападобнаму Серафіму Сароўскаму. Пасля паездкі да яго мошчаў і ўзмоцненных малітваў нарадзіўся хлопчык, нябесным заступнікам якога стаў прап. Серафім".

Родны брат айца Адама таксама быў святаром. Айцец Васілій Мітрафанавіч Гагалушка прыняў страшэнную пакутніцкую смерць у Сібіры ў 1920 годзе *("Сібірская Галгофа беларускага святара"- пад такой назвай можна знайсці цікавы матэрыял у Інтэрнэце).*

У канцы 1919 года айцец Адам быў перамешчаны ў мястэчка Шаркаўшчына настаяцелем Свята – Успенскай царквы, дзе да яго свяшчэнстваваў айцец Канстанцін Жданаў, замучаны бальшавікамі ў Дзісне ў 1919 годзе і зусім нядаўна кананізаваны. У 1921 годзе айца Адама не стала. Маленькі Серафім жыў з маці, якая працавала фельчарам у мястэчку Германавічы Дзісненскага павета. У 1926 годзе памерла і маці. Клопат аб выхаванні хлопчыка ўзялі на сябе брат і сястра маці, былыя настаўнікі. Маленькага святарскага сына апякуе таксама айцец Іаан Цітовіч з Лужкоў, бацька вядомага музыказнаўцы Генадзя Цітовіча. Матушка Цітовіч, нават пасля смерці свайго мужа, падтрымлівала сувязь з айцом Серафімам і яго сям'ёй. Прыязджала да іх у Язна.



Протаіерэй Серафім Гагалушка, благачынны цэркваў Глыбоцкай акругі.

Пасля заканчэння мясцовай 6-ці гадовай школы ў 1931 годзе будучы святар паступіў у 3-ці клас Віленскай духоўнай семінарыі, якую закончыў у 1938 годзе, адначасова вытрымаўшы іспыт на Атэстат сталасці. У тым жа годзе ён паступае на багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, але вучобу перарваў прызыў на службу ў польскую армію. Службу праходзіў у школе падхарунжых у г. Замбраве, потым у г.Ломжы. Другая сусветная вайна застала айца Серафіма ў польскай арміі на мяжы з Усходняй Прусіяй. Пры адступленні (10 – 15 верасня ) удзельнічаў у абароне акружанай Брэсцкай крэпасці. Потым у складзе нанава сфарміраванага палка быў накіраваны пад Ковель. Пазней была спроба наступлення ў накірунку акружанай немцамі Варшавы, баі пад Дэмблінам. У пачатку кастрычніка часць яго трапіла ў акружэнне, капітулявала і будучы святар Гагалушка аказаўся ў нямецкім палоне.

Да 1941 года айцец Серафім знаходзіўся ў лагеры для ваеннапалонных у г. Нейбрандэрбург, а з 1941 па 1945 год – на сельскагаспадарчых работах у гаспадара ў в. Тарнаў у Мекленбуржжы (Tarnow. (Mecklenburg)).

Пасля вызвалення з палону ў красавіку 1945 года быў прызваны на службу ў рады Чырвонай арміі. Службу праходзіў у Групе войск у Германіі. Пасля дэмабілізацыі ў чэрвені 1946 года працаваў настаўнікам, адначасова з'уляючыся загадчыкам школы ў в.Пялікі Шаркаўшчынскага раёна. Там працавала маладая вельмі прыгожая настаўніца Зянок Марыя Кляменцьеўна. Па словах дачкі Арыядны, аднойчы Марыі прысніўся малады чалавек з вусікамі і мушкай на шчацэ. Чыйсці голас сказаў: *"Гэта ваш муж"*. Не прыдаўшы ніякага значэння сну, Марыя Кляменцьеўна забылася пра яго. Праз некаторы час на раённай настаўніцкай канферэнцыі яе пазнаёмілі з новым загадчыкам Пялікаўскай школы, у якім яна пазнала героя свайго сну. Гэта быў Серафім Адамавіч Гагалушка. Нядаўна дэмабілізаваны з Чырвонай Арміі, ён хадзіў яшчэ ў вайсковай форме, іншага адзення ў яго на той час не было. Ежы не хапала. Выдзялялася ад школы на месяц крыху мукі, з якой сам варыў сабе пустую зацірку. Быў вельмі сціплым і сарамлівым, адказваўся харчавацца ў бацькоў Марыі.

Праз год сумеснай працы у пісьмовым выглядзе Марыя атрымала прапанову ад Серафіма стаць яго жонкай. Да апошняга дня свайго жыцця матушка Марыя захоўвала гэта пісьмо, часам даставала яго са старой сумачкі і перачытвала. Гэта пісьмо на дзвюх старонках, напісанае алоўкам на пажаўцелым ад часу лістку са школьнага сшытка, захоўваецца зараз у дачкі Арыядны:

**Яму прапаноўвалі пасаду дырэктара Шаркаўшчынскай школы, але ён выбраў іншы шлях – шлях служэння Богу і людзям.**

*"...В настоящее время мы не знаем, что случится завтра, что принесет нам будущее, и поэтому я не вправе давать какие-либо обещания...*

*... Вам также хорошо известно, что у меня ничего нет, кроме двух рук и при том неважных. Я испытал в своей жизни многое. Жизнь принесла мне мало светлых и радостных переживаний и слишком много тяжелых и кошмарных минут, что заставляет меня и в будущем ничего светлого не ожидать от жизни. Поэтому и Вы, если бы связали свою жизнь с моей, можете разочароваться. Я привык стойко встречать все, что преподносит мне жизнь и не гнуться под ударами судьбы, и в будущем пока обладаю здоровьем и силами, не боюсь ничего...*

*...Возможно, что я буду священником. Вам хорошо известно, как тяжел в настоящее время путь священнослужителя - путь унижений и подчас лишений. Ясно, что и Вам в качестве моей жены пришлось бы столкнуться с многими неприятностями..."*

Марыя Кляменцьеўна дала згоду выйсці замуж таксама ў пісьмовым выглядзе. Гэта пісьмо доўга не рашаўся прачытаць Серафім Адамавіч, баючыся атрымаць адказ на сваю прапанову. Ішоў дадому каля 5 км уздоўж чыгункі, несучы ў кішэні ліст ад каханай.

Маладыя настаўнікі ўступілі ў шлюб 9 мая 1947 года, павянчаліся, і маладую настаўніцу адразу звольнілі з працы. Серафіму Адамавічу прапаноўвалі пасаду дырэктара Шаркаўшчынскай школы. Але ён выбраў іншы шлях – шлях служэння Богу і людзям. 9 жніўня 1947 года Высокапрэасвяшчэннейшым Піцірымам, Архіепіскапам Мінскім і Беларускім рукапалажаны ў сан дыякана, а 10 жніўня ў святарскі сан. 20 верасня 1947 года айцец Серафім быў прызначаны настаяцелем Св.Троіцкай царквы сяла Дуброўка Полацкага раёна. Тут нарадзіўся сын Барыс.

20 верасня 1949 года па прашэнні айцец Серафім перамешчаны на тую ж пасаду да Спаса-Прэабражэнскай царквы ў вёсцы Язна. Пасяліліся ў старым святарскім доме. Тут праз тры гады нарадзілася дачушка, будучая матушка Арыядна Чахоўская. Але нядоўга доўжылася спакойнае жыццё вясковага святара. У канцы 50-х гадоў яго з сям'ёй выгналі з прыходскага дому і даволі доўгі час не давалі дазвол на будаўніцтва новага жытла. Кожны крок кантраляваўся; пісаліся розныя скаргі; учыняліся разборкі. Сябры айца Серафіма, якія займалі высокія царкоўныя пасады ў Маскоўскай патрыярхіі і Варшаве прапаноўвалі яму месцы новага, больш высокага служэння. Але святар разумеў, што, калі ён з'едзе адсюль, то царква будзе закрыта - і не змог пакінуць сваіх прыхаджан без храма; не змог пакінуць вёску і людзей, якіх палюбіў усёй душой, без Божай абароны і Божага слова.

*Заканчэнне на стар,11*



1949г. Першы год служэння ў Язна.



Браты-святары Адам і Васілій Гагалушкі.

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў Празарокі

**У суботу 3 жніўня ў вёсцы Празарокі вернікі сустракалі кіраўніка Віцебскай дыяцэзіі біскупа Алега Буткевіча.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота.*

Каб сустрэць высокага госця, вернікі разам са сваім святаром ксяндзом Дзмітрыем выйшлі да шашы Полацк – Вільня. Кіроўцы праязджаючых аўтамабіляў з цікаўнасцю пазіралі на вялікую групу святочна ўбраных людзей, якія трымалі на ручніку каравай, а таксама букеты кветак.

Пасля таго, як біскупу ўручылі каравай і кветкі, ён акрапіў прысутных святой вадой. Пры гэтым ён пажартаваў, што гэта будзе не лішнім у такую спёку. "Можа і Пан Бог злітуецца і пакропіць нас з неба," – прамовіў іерарх. Да тэмы надвор'я ён звярнуўся пасля і ў храме: маўляў, мы часта скардзімся, што Віцебшчына як паўночная частка краіны абдзелена цяплом, вось Бог і даў нам, каб мы пачуліся жыхарамі поўдня.

Пасля асвячэння вернікі на чале са святарамі рушылі да касцёла, дзе таксама чакала вялікая група людзей. Касцёл сустрэў біскупа святочным убранствам, дарожка ад брамы да алтара была ўпрыгожана кветкамі.

Пасля прывітальных словаў распачалася святая Імша, падчас якой біскуп удзяліў сакрамант канфірмацыі, або бежмаванне, вялікай групе вернікаў. У каталікоў гэта таямніца называецца сакрамантам хрысціянскай сталасці, бо яны атрымліваюць яе ўжо ў свядомым узросце, у той час як праваслаўныя атрымліваюць гэту таямніцу адначасова з хростам.

У сваім слове да вернікаў біскуп Алег звярнуў увагу на тое, што жыццё чалавека не абмяжоўваецца зямнымі справамі, трэба заўсёды памятаць аб выратаванні сваёй душы. Пры гэтым ён перасцярог вернікаў ад двух крайнасцей. Першая – гэта абыякавасць, калі чалавек думае, што нехта за яго памоліцца, папросіць Бога за яго душу. Другая крайнасць – гэта калі да веры падмешваюцца элементы акультызму, калі чалавек пачынае верыць розным экстрасэнсам, шаптухам.

Напрыканцы набажэнства адбылася працэсія вакол касцёла, пасля якой біскуп благаславіў вернікаў. Але і пасля службы людзі падыходзілі да іерарха, каб пагутарыць або зрабіць здымак на памяць. Падышлі і госці з Польшчы, якія таксама папрасілі біскупа зрабіць супольны здымак і заўважылі, што іх карані таксама паходзяць з Празарок. "Што было б на свеце, каб не Празарокі," – заўважыў на гэта віцебскі ардынарый.



# У Росіцы ўшанавалі памяць бязвінна загінуўшых

**У Росіцы, што ў Верхнядзвінскім раёне, ўшанавалі памяць ахвяр мінулай вайны.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота.*

Вернікі з запаленымі свечкамі прайшлі ад касцёла да месца трагедыі.

У лютым 1943 года нямецкія ўлады разам з латышскімі батальёнамі правадзілі карную аперацыю супраць мірнага насельніцтва Верхнядзвіншчыны. 16 - 18 лютага яны спалілі Росіцу разам з людзьмі. У агні тады загінула 1528 чалавек, сярод якіх былі два каталіцкія святары – Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Карнікі прапанавалі ім захаваць жыццё і пакінуць вернікаў, але яны вырашылі разам з імі раздзяліць іх лёс.

У памяць аб гэтых падзеях у росіцкім касцёле два разы на год адбываюцца ўрачыстасці: у сярэдзіне лютага і ў пачатку жніўня. Сёлета ў Росіцу прыйшлі тры пешыя пілігрымкі – з Барысава, Друі і Полацка, а таксама велапілігрымка з Жодзіна. Барысаўская пілігрымка ішла да Росіцы 8 дзён, прайшоўшы амаль трыста кіламетраў.

Урачыстасці ў Росіцы распачаліся ў пятніцу 1 жніўня Імшой для пілігрымаў, якая распачалася ў 18 гадзін. У поўнач вернікі сабраліся на галоўную Імшу, якую ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Напрыканцы набажэнства вернікі з паходнямі і запаленымі свечкамі прайшлі да месца пакутніцкай смерці святароў і жыхароў Росіцы. Яны прайшлі тым самым шляхам, якім тады ішлі пакутнікі, бо карнікі трымалі людзей у касцёле, каб адтуль павесці на смерць.

Свае свечкі людзі пакінулі ля крыжа, усталяванага на месцы трагедыі. Хтосьці пакінуў там бел-чырвона-белы сцяжок. Закончылася росіцкая сустрэча ўрачыстым богаслужэннем апоўдні 2 жніўня.

Нагадаем, што ў 1999 годзе папа Ян Павел II далучыў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыру да ліку благаслаўёных.



# Трагедыя ў Гатаўшчыне

*«30 ліпеня каля в. Гатаўшчына на краі пясчанага катлавана гулялі трое малалетніх дзяцей. Падчас гульні край катлавана абваліліся, і дваіх хлопчыкаў 2002 і 2005 гадоў нараджэння засыпала пяском. Дзеці загінулі да прыезду хуткай медыцынскай дапамогі,* — паведаміла прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова. — *Вывучаюцца абставіны і прычыны здарэння. Высвятляецца, ці мела месца парушэнне заканадаўства пры эксплуатацыі аб'екта».*

У Следчым камітэце звяртаюць увагу, што недапушчальна, каб дзеці знаходзіліся на тэрыторыі патэнцыйна небяспечных аб'ектаў без дарослых.

*nn.by*

# У Лужках прэзентавалі кнігу «Маё мястэчка» Васіля Стомы

**Прэзентацыя кнігі беларуса-эмігранта Васіля Стомы «Маё мястэчка» адбылася 2 жніўня на яго радзіме — у вёсцы Лужкі Шаркаўшчынскага раёна на Віцебшчыне.**




**На здымку: выступае краязнаўца з Шаркоўшчыны Уладзіслаў Ляскоўскі, за сталом сядзяць Наталля Гардзіенка і Зміцер Саўка.**

Мерапрыемства ладзілася з ініцыятывы Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў партнёрстве са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» і кампаніяй «Будзьма беларусамі».

Народжаны ў 1911 г. у Лужках аўтар у 1949 г. апынуўся ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе і напісаў свае маляўнічыя, поўныя гумару ўспаміны пра роднае мястэчка. «Маё мястэчка» ў 1980-х гг. друкавалася на старонках эміграцыйнага часопіса «Беларускі сьвет», у 1998 г. — у метрапольным «Полымі» і толькі сёлета выйшла ў якасці кніжнага выдання.

Цікавасць да кнігі вялікая, асабліва на радзіме Васіля Стомы, дзе яшчэ можна знайсці сведкаў тых падзеяў, пра якія расказвае аўтар.

З Лужак паходзіць стваральнік іўрыту Бен Егуда, тут служыў у касцёле ксёндз Язэп Германовіч, тут працаваў вядомы доктар Шыран…

На прэзентацыю ў мясцовым Доме культуры сабралося каля 40 чалавек як з саміх Лужак, гэтак і з раёна. Сябра Управы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», гісторык Наталля Гардзіенка згадала пра дзейнасць Згуртавання і перадала для Лужкоўскага клуба ды Цэнтра Язэпа Драздовіча, што знаходзіцца ў суседніх Германавічах, падарункі ад «Бацькаўшчыны» і кампаніі «Будзьма беларусамі». Далей быў аповед пра Беларускі інстытут навукі і мастацтва, створаны на пачатку 1950-х гг. у Нью-Ёрку для аб'яднання беларускай інтэлігенцыі, што ў паваенны час апынулася на Захадзе. Сябрам гэтага Інстытута быў і аўтар «Майго мястэчка» Васіль Стома, і менавіта ў архіве ўстановы захаваўся машынапіс ягонай працы. Карыстаючыся нагодай, прадстаўніца Інстытута ў Беларусі Наталля Гардзіенка выказала ўдзячнасць ад БІНіМу рэдактару кнігі «Маё мястэчка», а таксама шэрагу іншых тэкстаў эміграцыйных аўтараў — мовазнаўцу Змітру Саўку.

Зміцер Саўка ў сваім выступе распавёў пра гісторыю выдання працы Васіля Стомы, ініцыятарам якога ў 1990-х гг. выступіў сябра БІНіМу, даследчык і архівіст, што жыве ў Нью-Ёрку, Лявон Юрэвіч. Дзякуючы прапанове апошняга і з'явілася колішняя публікацыя ў «Полымі», а таксама і сёлетняе кніжнае выданне.

Прысутны на імпрэзе мастак Алесь Марачкін, што ўлетку жыве непадалёк ад Лужкаў, прачытаў вершы Язэпа Драздовіча, што паходзіў з Глыбоччыны.

Правядзенне імпрэзы было б немагчымае без арганізацыйнай працы грамадскай актывісткі з Германавічаў Ады Райчонак. Яна расказала пра цікавасць успамінаў Стомы, і прадэманстравала, як яны перагукаюцца з іншымі творамі, прысвечанымі Лужкам.

Прысутныя падзякавалі і выдавецтву "Лімарыус", у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» пабачыла свет кніга Васіля Стомы. На прэзентацыі таксама выступілі мясцовыя ды навакольныя жыхары і краязнаўцы: Уладзіслаў Ляскоўскі, Кліменцій Кожан, Эдмунд Гірын, Мікалай Андзілеўка, Зміцер Лупач. Сваімі аповедамі яны дапаўнялі ўспаміны Васіля Стомы, пашыралі звесткі пра гісторыю Лужак.

Спецыяльным госцем імпрэзы быў бард Алесь Камоцкі, выступ якога, вельмі цёпла прыняты прысутнымі, завяршыў прэзентацыю.

Пасля яшчэ была прагулка па месцах, што апісваў Васіль Стома ў сваёй кнізе, ды адведванне Культурна-асветнага цэнтру імя Язэпа Драздовіча і Прыватнага літаратурна-мастацкага музею, створанага Адай Райчонак у Германавічах.

*Паводле zbsb.org*

